# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл.; **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка л[illegible]іцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna",
Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE BELORUSSIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND"

№ 7 (542) — Нядзеля, 12 лютага 1961 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 15


## Праграма дзейнасьці новага амэрыканскага ўраду

Пасьля першай, інаўгурацыйнай прамовы больш сьвятла на будучы палітычны кірунак новай амэрыканскай адміністрацыі кінуў прэзыдэнт Кэнэды 30-га студзеня ў сваім звароце да абедзьвюх палатаў Кангрэсу, у якім ён гаварыў аб палажэньні справаў у краіне. Адкрытасьць, зь якой Кэнэды выказваўся аб палажэньні ў Амэрыцы і ў цэлым сьвеце, зрабіла ўсюды вялікае ўражаньне. Аб гэтым сьветчаць, у першую чаргу, прэсавыя камэнтары ўва ўсіх некамуністычных краінах. Кэнэды паказаў, што ён добра разумее запраўднае палажэньне, не баіцца глядзець праўдзе ў вочы і аб ёй адкрыта гаварыць. На пачатку свае прамовы ён адзначыў, што гаворыць у гадзіну небясьпекі й вялікіх шансаў для амэрыканскай нацыі. «Перад канцом майго ўрадаваньня, — сказаў ён, — мы павінны будзем даць доказ таго, ці можа нацыя, зарганізаваная так як нашая, існаваць далей.»

Новы прэзыдэнт крытычна выказаўся аб сучасным эканамічным палажэньні Задзіночаных Штатаў і заявіў, што ягоны ўрад ня будзе ў гэтай галіне пасыўным назіральнікам. «Мы мусім паказаць усяму сьвету, — гаварыў ён, — чаго можа дасягаць свабодная гаспадарка, а менавіта — зрэдукаваць беспрацоўе, выкарыстаць наяўныя вытворчыя магутнасьці й спрычыніцца да павялічэньня прыросту эканамічнай вытворчасьці ў рамах здаровай фінансавай палітыкі і адноснай стабільнасьці цэнаў.» Ня гледзячы на паважны дэфіцыт даляра, выкліканы вялікімі выдаткамі заграніцай, Кэнэды даў абяцаньне ўтрымаць міжнародную вартасьць амэрыканскай валюты на дасюлешнім узроўні шляхам перараспадзелу выдаткаў і нутраных эканамічных мерапрыемстваў.

Гаворачы аб палажэньні ў сьвеце і вынікаючых зь яго заданьнях для Амэрыкі ў галіне вонкавай палітыкі й абароны, амэрыканскі прэзыдэнт выказаўся за новыя мэтады ў разьвязаньні міжнародных праблемаў пры фактычным захаваньні цягласьці і мэтаў дасюлешняй амэрыканскай палітыкі. Ён спыніўся на палажэньні ў Азіі, Афрыцы, Лацінскай Амэрыцы, у Паўночна-Атлянтычным Пакце, выказаўся за неадкладную рэарганізацыю амэрыканскіх збройных сілаў, а, ускосна, і цэлай абароннай сыстэмы Захаду, з мэтай павялічэньня іхнай гатовасьці, магутнасьці й эфэктоўнасьці, за перамовы з камуністымі толькі з пазыцыі сілы і за раззбраеньне пад міжнародным кантролем, за ўсебаковую дапамогу слабаразьвітым краінам і падтрымку Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў, за супрацоўніцтва ў галіне навукі і асабліва ў галіне дасьледваньня міжплянэтнай прасторы і за свабоду ўсіх народаў.

Гаворачы аб крызісе ў Ляосе, Кэнэды сказаў: «У Ляосе мы ня хочам нічога іншага, як таго, чаго мы жадаем для ўсёй Азіі, для ўсяго сьвету — свабоды для народаў і незалежнасьці іхных ўрадаў. ЗША ніколі не перастануць імкнуцца да гэтай мэты».

У пытаньні Конга Кэнэды запэўніў: «Мы будзем падтрымліваць гераічныя высілкі Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў аднавіць там супакой і парадак — высілкі, загрожаныя сяньня ўзрастаючым напружаньнем, неразьвязанымі праблемамі й слабнучай падтрымкай з боку шматлікіх сяброў гэтай арганізацыі.»

«У Лацінскай Амэрыцы, — заявіў Кэнэды, — камуністычныя агенты, намагаючыся выкарыстаць у гэтым раёне мірную рэвалюцыю надзеі, толькі 90 міляў ад нашых берагоў, на Кубе, стварылі свой апорны пункт. Наш пратэст у дачыненьні да Кубы ськіраваны ня супраць дамаганьняў народу лепшага жыцьцёвага ўзроўня. Наш пратэст ськіраваны супраць паняволеньня яе чужой і нутранай тыраніяй. Правядзеньне на Кубе гаспадарчых і сацыяльных рэформаў павінна быць падтрыманае. У пытаньнях гаспадарчай і гандлёвай палітыкі мы заўсёды гатовыя да перамоваў, але ніколі ў пытаньні камуністычнага панаваньня ў гэтай гэмісфэры».

«Мы ўрачыста забавязаліся, — сказаў далей Кэнэды, — супольна з нашымі сёстрамі-рэспублікамі супрацоўнічаць у справе абароны ўсёй Амэрыкі ад усякага такога чужацкага панаваньня і ўсякай тыраніі з мэтай захаваньня свабоднай гэмісфэры з свабодным дзяржаўным ладам — ад мысу Горн аж да Палярнага Кругу.»

Закранаючы Паўночна-Атлянтычны Пакт, Кэнэды выказаў сваё незадаваленьне падзелам заходняэўрапэйскіх краінаў на эканамічныя блёкі і празьмерным падкрэсьліваньнем некаторымі зь іх сваіх нацыянальных інтарэсаў, што, на ягоную думку, не дазваляе поўнасьцяй ажыцьцявіць тыя заданьні, якія стаяць перад НАТО, як абаронным і гаспадарчым саюзам. Некаторыя заходнія палітычныя назіральнікі прыпушчаюць, што гэтая крытыка НАТО з боку Кэнэды была аднэй з прычынаў дымісіі ейнага дасюлешняга даўгагадовага Генэральнага Сакратара, бэльгійскага сацыялістычнага [illegible] Поль-Анры Спаака.

Перайшоўшы да дачыненьняў з камуністычным блёкам, Кэнэды заявіў: «Мы не павінны ўвесьці сябе ў блуд, быццам адна з гэтых краінаў (г. зн. Савецкі Саюз ці камуністычны Кітай — М. К.) адмовілася ад сваіх імкненьняў да сусьветнага панаваньня — імкненьняў, да якіх яны яшчэ нядаўна зусім выразна прызналіся.»

Далей Кэнэды заявіў: «Каб справіцца з усімі шматлікімі выклікамі, каб выканаць тую ролю на сусьветнай палітычнай сцэне, ад якой мы ня можам ухіліцца, мы павінны правесьці перагляд і ўлік усіх нашых інструмантаў, нашых ваенных, гаспадарчых і палітычных сяродкаў. Ніводзін зь іх ня можа адсоўваць іншых на задні плян.»

Больш падрабязна Кэнэды спыніўся на пытаньні абароны: Ён гаварыў: «У першую чаргу мы мусім узмоцніць наш ваенны патэнцыял. Мы стаім перад пэрыядам нязьведаных рызыкаў, у якім магутнасьць вольнага сьвету ў дачыненьні як мілітарных, так і дыпляматычных магчымасьцяў павінна быць такой вялізарнай, каб любая агрэсія выглядала бяссэнсоўнай».

Кэнэды паведаміў, што, дзеючы ў гэтым кірунку, ён даў ужо шэраг інструкцыяў свайму міністру абароны. Ён загадаў праверыць усю сыстэму абароны, ейную сілу, арганізацыю, магчымасьці ейнага разбурэньня ворагам; а таксама зрабіць захады дзеля мадэрнізацыі ўсёй абароннай сыстэмы з мэтай наданьня ёй большай рухлівасьці і забясьпячэньня ад зьнішчэньня раптоўнай атакай ворага. Прэзыдэнт Кэнэды даў распараджаньне прысьпешыць будаўніцтва новых атамных падводных лодак, удасканаліць і павялічыць да максімуму ваенную ракетную тэхніку й разбудаваць ваенна-паветраны транспарт да такіх памераў, каб амэрыканскія наземныя збройныя сілы маглі быць на працягу некалькіх гадзін у дастатковай колькасьці дастаўленыя ў любы раён сьвету. У сувязі з гэтымі мерапрыемствамі новага прэзыдэнта заходнія назіральнікі прадбачваюць вялікія зьмены ў вабароннай тактыцы Захаду, якія не застануцца бяз упльіву на абаронную сыстэму НАТО, асабліва ў ягонай эўрапэйскай частцы.

Далей Кэнэды падаў сваю праграму шырокай эканамічнай, харчовай і тэхнічнай дапамогі патрабуючым краінам і кантынэнтам і прасіў Кангрэс выдзяліць для гэтага неабходныя фінансавыя рэсурсы. У вапошнім пункце свае праграмы аб дапамозе іншым краінам Кэнэды сказаў: «Напасьледак — калі нашая ўвага зьвернутая на разьвіцьцё некамуністычнага сьвету — мы ніколі не павінны траціць надзеі, што ўсходняэўрапэйскія народы ў канчальным выніку дасягнуць свабоды й дабрабыту. Каб быць гатовымі й магчы спрычыніцца да аднаўленьня гістарычных прыязных сувязяў, я прашу Кангрэс даць мне большую свабоду для гаспадарчай дапамогі ў гэтым раёне, калі гэта выявіцца ў інтарэсах нашай дзяржавы.»

Падсумоўваючы гэтую праграмную прамову Кэнэды, можна сказаць, што новы амэрыканскі прэзыдэнт у вонкавай палітыцы мае намер класьці галоўны націск на абарону і эканамічную дапамогу слабаразьвітым краінам, каб у такі спосаб супрацьдзеяць камунізму. Шкада, што ў ёй ён не закрануў такога важнага пытаньня, як ён думае супрацьдзеяць камуністычнай тыраніі, як ён яе называе, у галіне прапагандовай вайны, якая для камуністых зьяўляецца бадай што галоўным сяродкам у іхнай палітычнай экспансіі.

**М. К.**

## Лёс Беларусаў у Польшчы

Апрача далучанай да Польшчы пасьля апошняе вайны беларускай Беласточчыны, вялікая колькасьць Беларусаў была пераселеная на этнаграфічна польскія землі, галоўна на г. зв. «земе одзысканэ», г. зн. на былыя тэрыторыі Ўсходняй Нямеччыны, якія на падставе дагавору ў Ялце ўвайшлі ў склад польскае дзяржавы. Як паказваюць досьледы М. Волацічa, у межах сучаснае Польшчы пражывае наступная колькасьць беларускага насельніцтва: 1. у Беласточчыне — 691 000, 2. у заходніх акругах Польшчы — 350 000, 3. у Прусіі й Паморʼі — 150 000, 4. у цэнтральнай Польшчы — 16 500; разам — 1 207 500 чалавек (Мікола Волацiч: «Насельніцтва Заходняй Беларусі і яго перасяленьне між сучаснай Польшчай і БССР», «Беларускі Зборнік» Інстытуту Вывучэньня СССР, № 4, Мюнхэн, 1956).

Да 1955 году навет сярод карэннага беларускага насельніцтва Беласточчыны была забароненая хоць-бы й «нацыянальная паводля формы» беларуская грамадзкая й культурная праца, а што датычылася Беларусаў, што перасяліліся ў Польшчу із заходня-беларускіх земляў, дык і гаварыць ня прыходзіцца. Толькі прыблізна за год перад рэвалюцыйнымі падзеямі ў Польшчы ў кастрычніку 1956 году было заснаванае ў Беластоку Беларускае Грамадзка-Культурнае Таварыства, пачала выходзіць у Беластоку тыднёвая газэта «Ніва» й паадкрываліся на тэрыторыі беларускай Беласточчыны беларускія пачатковыя й сярэднія школы.

Спачатку беларуская культурная праца ў Беласточчыне, хоць і праводжаная згодна абавязваючай у Польшчы пракамуністычнай лініяй, мела ўсё-ж некаторыя азнакі самастойнасьці. Пазьнейжа над усей беларускай дзейнасьцяй у Беласточчыне была наложаная срогая кантроля з боку БССР, што навет спачатна беларуская мова газэты «Ніва» была замененая зрусыфікаваным бэсэсэраўскім жаргонам. Тым ня меней, беларуская дзейнасьць у Беласточчыне, хоць у створаных умовах і чужая ідэялягічна Беларусам, мае тое дадатняе значаньне, што яна падтрымлівае сярод насельніцтва беларускую нацыянальную сьведамасьць і абараняе яго ад палянізацыі.

У куды горшым палажэньні апынуліся тыя Беларусы, якія пасяліліся ў карэннай Польшчы й на былых усходня-нямецкіх землях, прылучаных пасьля вайны да Польшчы. А як вынікае із дасьледваньня М. Волацiча, іх там не малая колькасьць. Гэта ўсё тыя Беларусы, якія, падаўшы сябе Палякамі, на аснове савецка-польскіх пагадненьняў аб рэпатрыяцыі польскага насельніцтва з СССР, перасяліліся ў Польшчу.

Беларускае насельніцтва Заходняе Беларусі ўсякімі спосабамі выкарыстоўвала магчымасьці перасяленьня ў Польшчу, спадзяючыся, што гэтым яно ўсьцеражэцца ад ненавісных калгасаў і ўсіх іншых «дабрадзействаў» бальшавізму. Перасяляліся галоўным чынам Беларусы каталікі, якім было лягчэй давесьці іхную «польскасьць», але разам зь імі перасялілася й некаторая частка Беларусаў праваслаўных. Ясна, бальшавікі добра ведалі, што гэта ніякія Палякі, але чыстакроўныя Беларусы. Ня гледзячы на гэта, яны ня перашкаджалі іхнаму перасяленьню ў Польшчу, бо гэта якраз спрычынялася да аслабленьня беларускага нацыянальнага патэнцыялу ў БССР, тым больш, што на месца пераселеных Беларусаў насаджваўся ў Беларусі расейскі элемэнт.

Вось-жа сярод гэтае часткі Беларусаў не вядзецца амаль ніякай беларускай дзейнасьці галоўным чынам із-за іхнай расьцярушанасьці сярод польскага элемэнту. Толькі ў такіх гарадох, як Варшава, дзе знаходзіцца некаторая колькасьць беларускае інтэлігенцыі, і былы нямецкі горад Штэцін, дзе канцэнтруецца значная колькасьць беларускіх перасяленцаў, існуюць аддзелы Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства. Але Беларусаў, што пражываюць у іншых мясцовасьцях Польшчы, беларуская дзейнасьць зусім не дасягае.

Вось-жа для нас цікава, які нацыянальны лёс гэтых Беларусаў.

Трохі сьвятла на гэтую справу кідае польская газэта «Дзеньнік Чыкаговскі» ў нумары за 14 студзеня 1961 г., дзе ў артыкуле «Рэпатрыянтам сумна на Захадзе» чытаем наступнае:

«Лодзкі «Пшэглёнд Соцыёлёгічны» прыносіць цікавае дасьледваньне Казіміра Жыгульскага п. н. «Культурная адаптацыя рэпатрыянтаў на Землях Заходніх». Справа абапіраецца на выніках навуковых сацыялягічных анкетаў, якія датычаць сотні «крэсавых» сем'яў, аселеных на заходніх землях пасьля 1955 году.

Бальшыня прыбылых ужывала й ужывае заўсёды дома дзьвюх або навет трох моваў, гэта прыкладам беларускай і польскай, расейскай і польскай, украінскай і польскай — а навет казахскай і расейскай. «Польская мова, як хатняя мова, была ўжываная ледзь каля аднэй чацьвертай часьці пераселеных сем'яў», «бальшыня 57% сем'яў не карысталася польскай мовай у сваім штодзенным жыцьці».

Жыгульскі сьцьвярджае, што пасьля асяленьня «на Захадзе» прыбылыя робяць вялікія натугі, каб як найхутчэй апанаваць польскую мову. Працэнт сем'яў, якія гавораць дома папольску, вырас на працягу некалькіх год з 27% да 72%; найдаўжэй утрымліваецца беларуская мова, бо, як падала адна з апытваных, «пабеларуску дык гэтак лягчэй і шыбчэй выходзіць».

Прыемна даведацца, што спасярод пераселеных у Польшчу няпольскіх нацыянальнасьцяў Беларусы выказваюць найбольшую нацыянальную ўстойлівасьць. Але з практычнага гледзішча пацеха ад гэтага невялікая. Новае пакаленьне пераселеных Беларусаў, прайшоўшы польскія школы і ўліўшыся ў вір польскага жыцьця, ад сваей беларускасьці не захавае ўжо амаль нічога. А таму й гэты бальшавіцкі экспэрымэнт — стварэньне ўмоваў для перасяленьня Беларусаў у Польшчу трэба разглядаць, як адзін із многіх праступных спосабаў нацыянальнага нішчэньня беларускага народу.

**Алесь Крыга**

## Сельская гаспадарка СССР на студзенскім пленуме ЦК

Пленум ЦК КПСС, прысьвечаны пытаньням сельскай гаспадаркі Савецкага Саюзу, пачаўся 10 і закончыўся 18 студзеня гэтага году. Партыйныя кіраўнікі Саюзных рэспублік у сваіх дакладах далі малюнак становішча сельскай гаспадаркі, які сьветчыць аб сур'ёзным крызісе й банкроцтве калгасна-саўгаснай сыстэмы. І вось чаму. Яшчэ ў верасьні 1953 году Хрушчоў на пленуме ЦК КПСС дакладаў, што сельская гаспадарка ў самы кароткі тэрмін стромка падымецца і на працягу двух-трох гадоў усё насельніцтва будзе ў дастатку забясьпечанае харчовымі прадуктамі, а прамысловасьць сельска-гаспадарскай сыравінай.

З таго часу ўжо мінула сем гадоў. Для павялічэньня агульных збораў збожжа, ад наяўнасьці якога залежыць і пасьпяховае разьвіцьцё жывёлагадоўлі, ў Казахстане, Сібіры й іншых мясцох было паднята сорак адзін мільён гэктараў цаліны й пералогаў. Пасяўная плошча ў 1960 годзе дасягнула 202 мільёнаў гэктараў, ў той час, як у 1953 годзе засявалася толькі 157,1 мільён гэктараў. З 1953 году паводля афіцыйных зьвестак павялічылася больш чым на 20 мільёнаў галоў буйнай рагатай жывёлы.

Адбыліся значныя зьмены і ў сельскай гаспадарцы Беларусі. З 1953 году агульная пасяўная плошча павялічылася на поўмільёна гэктараў і дасягнула 5,6 мільёнаў гэктараў. У калгасах і саўгасах Беларусі на пачатак 1960 году налічваецца 59,3 тысяч трактароў, 10 тысяч збожжавых камбайнаў і шмат іншых сельска-гаспадарскіх машынаў. З 1954 па 1960 год павялічылася на 800 тысяч галоў буйнай рагатай жывёлы і агульная колькасьць дасягнула 3,4 мільёнаў галоў. Калгасы й саўгасы, паводля афіцыйных дадзеных, штогод вывозяць на палі, апрача гною, мільёны тон торфу, розных штучных ўгнаеньняў і праводзяць у шырокіх памерах вапнаваньне глебы. На корм жывёле засяваецца 1 мільён 476 тысяч гэктараў кармовых культураў і да гэтага яшчэ 291 тысячу гэктараў кукурузы.

Здавалася-б, што калгасна-саўгасная гаспадарка Беларусі, узброеная тэхнікай, значна павялічыўшы пасяўныя плошчы ды ўкладаючы на палі мільёны тон розных ўгнаеньняў, павінна мець высокія ўраджаі збожжа, бульбы, лёну, цукровых буракоў і ў дастатку кармоў для жывёлы. Аднак гэтых дасягненьняў няма, аб чым сьветчаць факты. За 1949—1953 гады сярэдні ўраджай збожжавых культур быў 6,2 цэнтнары, на гэктар, а ў 1954—1958 г. сярэдні збор збожжа з гэктара панізіўся да 6 цэнтнараў. Зьнізіліся і ўраджаі бульбы, калі ў 1953 годзе зьбіралі бульбы 92 цэнтнары з гэктара, то ў самы ўрадлівы 1958 г. было сабрана толькі 80 цэнтнараў з гэктара (Сельское хозяйство СССР. Статистический сборник, бач. 21).

Беларусь не зьяўляецца выключэньнем. Апошнімі гадамі значна зьнізіліся ўраджаі ў прыбалтыцкіх рэспубліках, Туркмэнскай ССР і ў шэрагу эканамічных раёнаў Расейскай Фэдэрацыі. Толькі за 1959 год на Беларусі зьменьшылася на 176 тысяч галоў авец. За 1960 год ў РСФСР, Казахстане, Кіргізіі й Грузіі здохла ад недахопу кармоў 9 мільёнаў 334 тысяч авечак. У шэрагу вобласьцяў прыпыніўся прырост кароў, а ў некаторых мясцох здохла шмат цялят і сьвіней.

**(Заканчэньне на 2-ой бач.)**

# Пра культурную палітыку Масквы

Як ведама, 23 верасьня 1960 г. на разгляд XV сэсіі Генэральнай Асамблеі Задзіночаных Нацыяў Хрушчоў прапанаваў так званую «Дэклярацыю аб наданьні незалежнасьці каляніяльным краінам і народам». У гэтай дэклярацыі гаварылася між іншым: «Кажны сумленны чалавек і кажны ўрад, якія ўзапраўды стаяць за раўнапраўнасьць народаў, за ажыцьцяўленьне вялікіх мэтаў і прынцыпаў Статуту Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў, ня могуць ня бачыць, што каляніялізм ёсьць аджыўшая й ганебная зьява ў жыцьці сучаснага людзтва... Дзяржавы — сябры Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў выходзяць із таго, што кажная краіна й кажны народ маюць неад'емнае й поўнае права на самастойнае існаваньне...»

Гэтыя прынцыпы савецкай «Дэклярацыі» ў ваднолькавай ступені павінны былі-б тычыцца й ўсіх падсавецкіх народаў, тым больш, што яны патрабуюць «ажыцьцяўленьня вялікіх мэтаў і прынцыпаў» Статуту Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў. Яны адначасна павінны ўзяць пад увагу й культурнае прыцясьненьне народаў, іх свабоду ў культурным разьвіцьці. Між тым, ні Хрушчоў, ні прадстаўнікі савецкіх нацыянальных рэспублік, у дадзеным выпадку прадстаўнікі БССР і УССР, якія таксама прынялі ўдзел у працы XV сэсіі Генэральнай Асамблеі Задзіночаных Нацыяў і падтрымалі дэклярацыю Хрушчова, ні словам не заікнуліся пра запраўдны палітычны стан падсавецкіх народаў, пра іхнае культурнае прыгнечаньне. Наадварот, як ведама, яны выключалі ўсякую дыскусію па гэтаму пытаньню, выходзячы з таго, што быццам-бы падсавецкія народы карыстаюцца поўнай свабодай як у дзяржаўным, так і ў культурным жыцьці. З гэтае прычыны было-б на месцы затрымацца тут на некаторых баках савецка-маскоўскага каляніялізму й галоўным чынам на вытычных культурнае палітыкі Масквы адносна нерасейскіх народаў у ейных выяўленьнях апошняга часу.

### 1. Моўная палітыка Масквы

Палітыка русыфікацыі родных моваў падсавецкіх нерасейскіх народаў ужо мае сваю гісторыю. У савецкі пэрыяд яна распачалася ў 1930-х гадох зь ліквідацыі, напрыклад, у некаторых мусульманскіх народаў традыцыйнага арабскага альфабэту, пасьля лацінскага, і замены яго расейскім. Дэкрэтам Савету Народных Камісараў БССР ад 26 жніўня 1933 году ня толькі зьмяніўся беларускі правапіс, але й выціскаліся галаўнейшыя фанэтычныя й марфалягічныя асаблівасьці, беларускае мовы. Яны замяніліся асаблівасьцямі расейскае мвоы, і ў выніку беларуская літаратурная мова ў БССР стала прыбліжацца да расейскае. У практыцы моўная палітыка Масквы йшла яшчэ далей. У вабавязковым парадку мовы нерасейскіх народаў павінны былі ўзбагачацца расейскай навуковай і тэхнічнай тэрміналёгіяй, новымі сацыяльна-філязафічнымі тэрмінамі, узятымі з так званага расейскага марксізму-ленінізму.

Як ведама, распрацаваная ў 1920-х гадох навукова-тэхнічная тэрміналёгія беларускімі навукоўцамі-моваведамі напасьледак паказалася забароненай. Апошні прынцып стаўся легалізаваным канчаткова ў 1959 годзе на Маскоўскай канфэрэнцыі, прысьвечанай пытаньню пісьменнасьці й тэрміналёгіі моваў народаў СССР. Пайменна, гэтая канфэрэнцыя рэкамендавала савецкім лінгвістам заняцца «усовершенствованим национальной письменности и улучшением терминологии и унификации ее», бязумоўна, на аснове расейскай пісьменнасьці й тэрміналёгіі. Больш таго, родныя мовы, асабліва мовы народаў славянскіх рэспублік, якімі ёсьць БССР і УССР, паступова сталі выціскацца як з урадавых установаў, так і з школаў ці навуковых установаў. Як прыклад гэтае апошняе палітыкі Масквы можа служыць БССР, дзе ўжо к 1956 году ўва ўсіх 24 вышэйшых школах навучаньне ажыцьцяўлялася выключна на расейскай мове, у тым ліку й у вадзіным Беларускім дзяржаўным унівэрсытэце. Такая-ж доля не абмінула таксама й Акадэміі навук БССР, нямногія працы якой выдаюцца пераважна на расейскай мове.

Спробай Масквы да поўнай ліквідацыі родных моваў нерасейскіх народаў СССР трэба ўважаць, бязумоўна, апошні закон аб выкладаньні й навучаньні ў школах савецкіх нацыянальных рэспублік. Як ведама, пасьля «доўгага абмеркаваньня» запіскі Хрушчова пра рэформу сярэдняе й вышэйшае школы, у канцы 1958 году быў выдадзены агульны закон «Аб умацаваньні сувязі школы з жыцьцём і аб далейшым разьвіцьці сыстэмы народнае асьветы». Праўда, у гэтым законе яшчэ нічога не ўспаміналася пра моўную рэформу, толькі даваліся рэкамендацыі рэспубліканскім урадам разважыць названы закон і прымяніць яго да ўмоваў кажнай рэспублікі. На працягу красавіка-чэрвеня 1959 году апошні закон быў поўнасьцяй адобраны й прыняты ўва ўсіх рэспубліках.

Розьніца была толькі тая, што ў рэспубліканскіх ягоных копіях зьявіліся новыя 9-ы ці 11-ы артыкулы, якія ў радыкальны спосаб ліквідавалі папярэднюю практыку абавязковага выкладаньня ў рэспубліканскіх школах на роднай мове. Так, напрыклад, артыкул 9-ы закону «Аб умацаваньні сувязі школы з жыцьцём і аб далейшым разьвіцьці сыстэмы народнай асьветы ў Украінскай ССР» паведамляў: «Навучэньне ў школах Украінскай ССР ажыцьцяўляецца на роднай мове навучэнцаў. Зь якой мовай навучаньня аддаваць у школу сваіх дзяцей, пастанаўляюць бацькі. Вывучэньне аднае із моваў народаў СССР, на якой не вядзецца навучаньне ў дадзенай школе, ажыцьцяўляецца па жаданьню бацькоў і навучэнцаў, калі гэтаму дазваляе кантынгент навучэнцаў». Тое самае гаворыцца таксама ў вадпаведных артыкулах гэтых законаў іншых рэспублікаў, калі, ведама, ня браць пад увагу невялікіх стылістычных зьменаў.

На першы пагляд дадзеная моўная рэформа паказваецца запраўды дэмакратычнай. Яна быццам-бы дапускае поўную свабоду ў выбары тае ці іншае мовы навучаньня й поўную роўнасьць моваў. Аднак яна кантрабандай працягнула тыя абставіны, як гэта было ў выпадку тае савецкае аксыёмы, што «ўсе народы Расеі маюць поўнае права на самавызначэньне, уключна да аддзяленьня й утварэньня самастойнае дзяржавы».

Аднак, «у залежнасьці ад абставінаў» і «ў інтарэсах сьветавай пралетарскай рэвалюцыі» народам Расеі ня прыйшлося скарыстаць з гэтага свайго права, і яны дасюль жывуць пад ціскам нацыянальнага прыгнечаньня.

Як ужо зазначалася вышэй, папершае, дадзеная моўная рэформа ці закон ліквідуе дасюлешні й неад'емны ад народу закон абавязковага навучаньня ў нацыянальных школах на роднай мове, ліквідуе папярэднюю практыку падтрыманьня рэспубліканскімі ўрадамі нацыянальнае школы з роднай мовай выкладаньня. Згодна новага закону, наадварот, родная мова наагул можа быць выгнаная із школаў нацыянальных рэспублік, і навет як адзін із прадметаў выкладаньня. Уся ўвага зьвяртаецаца на расейскую мову, вывучэньне якое было абавязковым ужо з 1938 году. Закон цьвердзіць, што, у тым выпадку, калі вучні й іхныя бацькі выбяруць школу з роднай мовай навучаньня, другой мовай вывучэньня павінна быць расейская, выкладаньне якое павінна быць палепшанае. «Даручыць, — гаворыцца ў законе аб школах Украінскай ССР, — Савету Міністраў Украінскай ССР распрацаваць мерапрыемствы, якія-б забясьпечылі ўсе неабходныя ўмовы для вывучэньня й палепшаньня якасьці выкладаньня ў школах з украінскай ці другой мовай навучаньня расейскае мовы, якая зьяўляецца магутным сяродкам міжнацыянальных зносінаў, умацаваньня дружбы народаў СССР і асваеньня імі багацтва расейскай і сьветавай культуры».

Падругое, у сілу савецкіх абставінаў, наагул у сувязі з паяўленьнем гэтага закону, вучні й іхныя бацькі змушаныя выбіраць у першую чаргу школы з расейскай мовай навучаньня. Гэта яны змушаныя рабіць таму, каб прабіць са-

(Заканчэньне на 3-яй бач.)

# Сельская гаспадарка СССР...

(Заканчэньне з 1-ай бачыны)

Так сумна выглядаюць хрушчоўскія абяцанкі ў 1953 годзе аб крутым уздыме сельскай гаспадаркі на працягу 2—3 гадоў. Між тым, у сваіх справаздачах на пленуме ЦК партыйныя кіраўнікі на фоне вялізарных правалаў не забывалі падкрэсьліваць аб вялізарных агульных дасягненьнях Савецкага Саюзу, ў тым ліку і ў галіне сельскай гаспадаркі. Аднак у гэтых цьверджаньнях адчувалася трывога й няўпэўненасьць. Гэтыя высокія верхаводы яшчэ больш путаліся ад тых шматлікіх і зьедлівых рэплікаў Хрушчова аб зрыве сацыялістычных забавязаньняў, аб зьніжэньнях удояў малака, убыткаў жывёлы й іншых недахопаў.

На пленуме Хрушчоў у сваім дакладзе імкнуўся паказаць сябе шчырым і заўзятым абаронцам інтарэсаў савецкага народу. Будучы галоўным віноўнікам няўдачаў у сельскай гаспадарцы, усю віну Хрушчоў ўзваліў на партыйнае кіраўніцтва на мясцох, якое «ня здольным было падняць народ на барацьбу за выкананьне плянаў сямігодкі». Хрушчоў абвінаваціў сакратароў ЦК саюзных рэспублік у бязьдзейнасьці, памылках і навет злачынным ашуканстве дзяржавы. Нэрвовасьць Хрушчова дайшла да таго, што ён, паказваючы на старшыню Савету міністраў Украінскай ССР Кальчанку, гаварыў: «Вось ён сядзіць тут, член ЦК, дэпутат Вярхоўнага Савету, старшыня Савету міністраў буйнейшай рэспублікі — Украіны, і зь яго, як з гуся вада, нічога, што ён памыліўся». Яго памылкі нанесьлі вялікую шкоду гаспадарцы рэспублікі.

Хрушчоў у сваім дакладзе і ў рэпліках, якімі ён перабіваў дакладчыкаў і выступаючых на пленуме, прывёў шмат прыкладаў аб нядбайных кіраўнікох на мясцох. Аб гэтых партыйных кіраўнікох Хрушчоў гаварыў: «Што можна сказаць аб такіх кіраўнікох, якія часта называюць сябе камуністымі. Так могуць дзейнічаць толькі ворагі сацыялістычнай дзяржавы... так могуць рабіць толькі бюракраты, людзі, якія больш за ўсё клапоцяцца аб сабе. Іх турбуе толькі гонар мундзіра, ім наплеваць на інтарэсы партыі, інтарэсы народу».

Першага сакратара ЦК КП Кіргізіі Хрушчоў абвінаваціў у тым, што ён страціў марксіцка-ленінскую чуласьць, бо сакратара абкому, які займаўся ашуканствам дзяржавы, ЦК партыі Кіргізіі прызначыла міністрам нутраных справаў. Прыкладаў такіх з дакладу Хрушчова можна прывесьці шмат. Хрушчоў не абмяжоўваў сябе ў кампрамітацыі выдатных партыйных лідараў.

У сваім дакладзе Хрушчоў прымушаны быў прызнаць, што далей «нельга народу абяцаць прыгожых пэрспэктываў. Трэба дабіцца таго, каб у людзей ужо сяньня было малако, мяса й іншыя прадукты. І самае галоўнае, рабіць усё дзеля таго, каб лепш забясьпечыць людзей усім тым неабходным, чаго яны патрабуюць». Вось-жа ў пошуках да падняцьця занялалай сельскай гаспадаркі Хрушчоў ужо менш пакладае надзеяў на цаліну, бо добра разумее, што цаліна ўжо страціла сваю ўрадлівасьць. Замест скарыстаньня цаліны Хрушчоў прапануе бліжэйшымі гадамі правесьці ірыгацыі й абвадненьне новых мільёнаў гэктараў у пустынных землях Сярэдняй Азіі ,на поўдні Расейскай Фэдэрацыі, на Украіне і Закаўкаскіх рэспубліках. Ён дакляруе на гэтых абводненых землях атрымаць паўтары мільярды рыжу, кукурузы й вялікую колькасьць бавоўны.

Хрушчоў «растлумачыў» удзельнікам пленуму, што ўраджаі на абводненых землях ня будуць залежыць ад капрызаў прыроды і пры самых няспрыяльных умовах гарантуюць высокія зборы сельскагаспадарскіх культур. Давёўшы сельскую гаспадарку да катастрафічнага становішча, Хрушчоў ужо гатоў адмовіцца ад сваёй непарушальнай тэзы, якую пераняў ад Сталіна і цьвёрда праводзіў у жыцьцё, гэта аб пераважным значаньні ў народнай гаспадарцы Савецкага Саюзу цяжкай прамысловасьці.

Ажыцьцяўленьне хрушчоўскага пляну аб разгортваньні буйных працаў па ірыгацыі і абвадненьню мільёнаў пустынных земляў у першую чаргу адмоўна адаб'ецца на сельскай гаспадарцы Беларусі. Адвечная праблема асушаньня балотаў і ў першую чаргу Палескай нізіны будзе зноў закінута на шмат гадоў. Уся ўвага будзе накіраваная на ірыгацыі. Гэты новы хрушчоўскі прапагандовы манэўр мае за мэту адцягнуць незадаваленьне працоўных масаў ад тых няўдачаў у сельскай гаспадарцы, якія выявіліся на працягу першых двух гадоў сямігодкі. На зьмену прапагандзе аб багацьцях на цаліне, якая ня прынесла павялічэньня прадуктаў харчаваньня працоўным, першае месца займе цяпер ірыгацыя. На гэтыя новыя работы будуць траціцца мільярды народных сяродкаў. Эшалёны моладзі прымусова будуць мабілізаванымі на ірыгацыйныя працы ў сьпякотныя пустыні Сярэдняй Азіі. А празь нейкі час эшалёны калгасных сем'яў зь Беларусі, Украіны, прыбалтыцкіх рэспублікаў і іншых мясцовасьцяў пакінуць свой родны край і пад прымусам будуць адпраўленыя на асваеньне абводненых пустынных пяскоў.

Д. Б.

Мікола Цэлеш

# Ярылаў агонь

(Працяг)

Дзьмуў сьвежы ветрык і старыя дубы на капцох гудзелі, быццам знутры былі пустыя, а гонкія й роўныя, як каломны, сосны пакалыхваліся шапкамі ў небе. Але, наўкола было абсалютна ціха. Раманка спыніўся ў нейкім зачараваньні, пазіраючы на заімшэлыя таямнічыя камяні, якія, як перабітае войска, ляжалі адзін каля аднаго. Хто тут пахаваны. І чаму нікому ня дадзена ведаць аб гэтым? Ён падыйшоў да аднаго, амаль цалкам уросшага ў зямлю, і пачаў саскробваць зь яго мох. Мурашкі і павучкі шпарка пакідалі свае ўлюблёныя мясцы. Пад мохам на камяні паказаліся круглыя і амаль усе аднае вялячыні дзюрачкі. Спачатку Раманку паказалася, што гэта нейкая птушка павыдзяўбала іх. Але потым, больш уважліва разглядзіўшы, ён зрабіў выснаў, што гэта кроплі вады, капаючыя з дуба павыбілі ямачкі за стагодзьдзі. Колькі прайшло гэтых стагодзьдзяў? Ці адзін раз высякаўся і зноў вырастаў над імі лес?

Раманка тупнуў нагою аб грунт. Зямля забубнела пад ім. Тады яму захацелася падслухаць, што робіцца ў ёй. Ён лег каля каменя і прытуліўся вухам да зямлі. І ў гэты-ж час яму здалося: па ўсяму лесе пакаціўся жудасны рогат! Але, як толькі ён падняў вуха ад зямлі, рогат адразу-ж змоўк. Ён зноў паспрабаваў прытуліцца вухам да зямлі і ў гэты-ж час адчуў на сваім плячы датыканьне нейчай рукі. Раманка так спалохаўся, што ня мог навет варухнуцца: заплюшчыў ад страху вочы і чакаў, што будзе далей. І ў гэты-ж час пачуў Зенькаў голас:

— Хлопец, хлопец: ня жыхар ты цяперака на гэтым сьвеце?

Раманка ўсё яшчэ ня мог пазбыцца страху, думаючы, што ўсё гэта яму трызьніцца і, не адрываючы вуха ад зямлі, маўчаў.

— Схопяць цябе нячысьцікі і будуць пражыць на Ярылавым агні, бо месца гэнае ёсьціка тутака зачараванае.

— Ярылаў агонь, гэта богаў агонь! — амаль крыкнуў, як-бы у злосьці, урэшце Раманка. — Пра гэта мне казаў тата, а ты ведаеш, што ён ніколі ня хлусіць, а тату казаў каморнік...

Зенька, як-бы ашарашаны, маўчаў.

— І калі месца гэнае зачараванае, дык чаму ты не баішся тутака хадзіць?

— Я — што? Я маю ад гэтага адвод, — адказаў Зенька і ў гэты момант выняў руку з запазухі, у якой нешта трымаў. Вось, бачыш, з чым я прыйшоў сюды?

— А што гэта такое?

— Чортаў палец!

— Чортаў палец? Пакажы?

— Даць табе ў рукі не магу, бо ён адразу згубіць сваю моц...

— А дзе ты яго ўзяў?

— Гэта таямніца. А хто яго мае, той не паддаецца ніякім небясьпекам...

Раманка глядзеў зьдзіўленымі вачыма на Зеньку.

— Але-ж, пакажы!

— Спачатку тройчы перажагніся, бо як дакранешся, дык адразу цябе і ня стане...

Раманка стаяў у нерашучасьці. Але інтэрас перамог і ён тройчы перахрысьціўся.

— Цяпер можаш узяць, — сказаў Зенька, і перадаў хлапцу «палец». Той доўга круціў яго перад вачыма. Потым, нечакана, узяў на зуб, каб паспрабаваць, з чаго ён. Зенька ад страху выпусьціў луты, што трымаў пад пахай, і пачаў пасьпешна хрысьціцца.

— Ды гэта-ж звычайны чорны каменчык, толькі добра некім адшліфаваны.

— У імя айца і сына — не, не кажы гэтак... — спалохаўся Зенька і выхапіў з рук хлапца чортаў палец, які хуценька зноў схаваў у пазуху.

— Табе гэта дарма ня пройдзе! — сказаў. — На працягу трох днёў і трох начаў цябе схопяць і панясуць смажыць...

І, падняўшы луты, пасьпешна закрочыў зь лесу, — так пасьпешна, што Раманка ледзьве-ледзьве спраўляўся за ім.

Як ужо выйшлі на поле, Раманка запытаў:

— Калі ты пэўны, што гэта чортаў палец, дык як табе ня грэх насіць яго з сабой?

— Я-ж кажу, то адвод ад усіх чараў, калі верыш у ягоную моц...

Яны выйшлі на вузкую сьцежку сярод багнаў і балотаў. Ракітавыя кусты блішчэлі срэбрам на сонцы. Паміж смуг вады чарнелі купіны й карчы. Зямля парылася й поўнілася размаітымі, часам няўлоўнымі, гукамі. І ў усім гэтым Зенька бачыў нейкую таямнічасьць.

— Спражуць цябе на Ярылавым агні нячысьцікі, спражуць! — казаў Зенька.

— Багі ўсякія бываюць: раней наш бог быў Ярыла, а цяпер Хрыстос, пасьля прыняцьця хрысьціянства: я вучыў гэта па кніжках...

— Ня можна кпіць зь незразумелых нам зьяваў.

— А скажы, Зенька, ці ты, праўда, хадзіў адкопваць скарб у Гарадцы?

— Два разы. І больш ужо зарокся...

— Чаму?

— Першы раз, толькі наступіў на рыдлёўку, каб усадзіць яе ў зямлю, як усхадзіўся такі магутны вятруга, што ня толькі зьнёс з галавы шапку, але й вырваў рыдлёўку і паваліў мяне ніц, коцячы па полі, як які-небудзь шмат. Толькі на раніцу вярнуўся я дадому. У другі раз, зямля ўзварухнулася пад нагамі і па лесе пакаціўся такі плач, рогат і, разам з тым, стогны, а хвалі на возеры падняліся так высака, што ў мяне валасы пасталі дубам, і я думаў, што ўжо ніколі не вярнуся дадому. Потым мяне кідала ў холад, і ў гарачыню, наступна зноў у холад: я ляскаў зубамі, як галодны ваўкалака. Жонка хуценька распаліла печку, напарыла чабору, маліньніку і ліпавых кветак. Я піў гэтае зельле і ніяк ня мог сагрэцца... А ўсё гэта якраз і паказвае, што скарбы ў Гарадцы ёсьць, толькі іх аберагаюць нячыстыя духі... І нікому я ня раю брацца за гэта!

— А я, от, вазьмуся...

Зенька аж спыніўся і доўга і ўважліва пазіраў на хлапца.

— Ой, будуць цябе пражыць нячысьцікі, будуць...

* *
*

Назаўтрае Раманка запраўды зьнік. Яго чакалі на палудзень ня прыйшоў, на падвячэрак — таксама ня прыйшоў, ня прыйшоў і на вячэру. Маці бегала па хатах, пыталася ў хлапцоў: ці ня бачылі вы майго Раманку? Ніхто зь іх нічога сказаць ня мог. Урэшце кабета выказалася ўголас:

— А мой ты сыночак, а дзіцятка маё роднае, дзе-ж ты гэта падзелася?

Лямант гэты ўскалануў усю вёску, і людзі пачалі пытацца, як было спачатку. Маці адказвала аднастайна: — Сядзеў у хаце і раптам зьнік. Калі і як, я і ня прыкмеціла...

— Ты-ж, усё-ткі галаву маеш? — умяшаўся Яхім. — Што ён рабіў цэлы дзень?

— Сядзеў за сталом із сваімі кніжкамі, нешта маляваў; а потым прыйшлі лірнікі, сьпявалі пад вакном свае песьні і маліліся, а я пайшла ў каморку, адрэзала скрылёк сала і падала ім, а яны падзяквалі, а патомака ён нешта тутака сланяўся па хаце, а потым і зьнік, я і не аглянулася, калі?!

— Што да лірнікаў, дык справа выключаная: яны зманіць

# Урачыстасьць у Нотынгаме

Нядзеля 15-га студзеня сталася для Беларусаў з Нотынгаму і ваколіцы выняткова ўрачыстым днём, аб якім у іх назаўсёды астанецца сьветлы ўспамін і заслужаны гонар.

Беларускае грамадзкае жыцьцё ў Нотынгаме ўвесь час было даволі актыўнае з усімі тымі суцяшаючымі й сумнымі зьявішчамі, якія характэрныя для кажнае эміграцыі. І вось з пачыну мясцовага беларускага актыву зьявілася шчасьлівая думка зрабіць болып на славу Богу й на карысьць свае бацькаўшчыны — памаліцца супольна за свой народ у нотынгамскай катэдры — запраўды адважная думка, бо-ж напоўніць катэдру маленькімі, — справа нялёгкая. Аднак веручы, што адважным Бог дапамагае, ініцыятары стварылі арганізацыйны камітэт і запрасілі Яго Дастойнасьць уладыку Чэслава Сіповіча разам зь іншымі сьвятарамі з Марыйскага Дому ў Лёндане адправіць 15-га студзеня Службу Божую ў Нотынгамскай каталіцкай катэдры.

Падрыхтавальные працы да гэтага багаслужэньня было вельмі многа: трэба было ўзгодніць з царкоўнымі ўладамі й суродзічамі ўсе падрабязнасьці што да самое Службы Божае й што да прыняцьця гасьцей пасьля багаслужэньня, падрыхтаваць усё патрэбнае, паведаміць мясцовую ангельскую прэсу — аднак, дзякуючы працавітасьці ды ахвярнасьці камітэту й яго супрацоўнікаў, усё было зроблена як мае быць. Вялікаю маральнаю падтрымкаю ў гэтай працы былі вельмі прыхільныя дачыненьні нотынгамскага каталіцкага біскупа Яго Дастойнасьці Эдварда Эльзіса: ён ахвотна дазволіў служыць Беларусам у свабй катэдры і ў сваім палацы гасьціў уладыку Чэслава Сіповіча.

Калі ў суботу 14 студзеня вечарам лёнданскі цягнік спыніўся ў Нотынгаме, дык уладыку Чэслава Сіповіча разам зь беларускімі сьвятарамі, хорам і гасьцямі, як бачыш акружылі сябры камітэту разам з сакратаром нотынгамскага біскупа і, сардэчна іх прывітаўшы, накіравалі кажнага ў прызначанае памешканьне.

У нядзелю мясцовыя Беларусы й прыезныя госьці зь цікавасьцю й трывогаю паволі зьбіраліся каля катэдры. Там ад самага раньня адпраўляліся адна за другою Службы Божыя, і вялікая нава катэдры была ўвесь час напоўненая маленькімі. «А як будзе на нашай службе?» — пыталіся сябе.

У меру таго, як зьбліжаўся поўдзень, ля катэдры ўсё часьцей і часьцей можна было пачуць беларускую мову і ўбачыць, як віталіся з сабою блізкія й далёкія знаёмыя з Нотынгаму, Дэрбы, Ковэнтры, Брадфорду Бірмінгаму, Мэльтон Мобры, Сканторпі, зь Лёндану. Часам чуваць было так-жа і украінскую мову.

А першай гадзіне, як толькі скончылася чарговая Служба Божая і маленькі выйшлі з катэдры, пачалі туды ўвайходзіць Беларусы — гэтым разам яны не сланяліся па зацішных кутках, але йшлі наперад. Хутка катэдра напоўнілася і ад уваходных дзьвярэй накіроўвалася да аўтара ўрачыстая працэсія ў складзе: Яго Дастойнасьць Уладыка Чэслаў, нотынгамскі біскуп, Яго Дастойнасьць Эльзіс, адміністратар катэдры канонік Торнгіл, сакратар нотынгамскага біскупа а. Каммінс, а. Леў Гарошка, а. Аляксандар Надсон і інш. У катэдры залуналі царкоўна-славянскія беларускія мэлёдыі — хор з Марыянскага Дому пад кіраўніцтвам сп. Гая Пікарда, узмоцнены прыезнымі Беларусамі, сьпяваў надзіва прыгожа й шчыра пабожна.

Нотынгамскі біскуп з сваею асыстаю заняў пачэснае месца на сваім пасадзе, а уладыка Чэслаў у суслужэньні а. Л. Гарошка і а. Н. Надсона пайшлі да галоўнага аўтара. Беларусы на чале з сваім герархам славілі Бога так, як не маглі яго на працягу некалькі вякоў славіць на бацькаўшчыне.

Пасьля Эвангельля Нотынгамскі біскуп зьвярнуўся да Беларусаў з кароткім прывітальным словам, ён выказваў сваю шчырую радасьць, што цяпер мае магчымасьць пазнаёміцца зь Беларусамі каталікамі й праваслаўнымі, хоць яны ўжо працуюць тут ад даўна. За гэткае гасьціннае прыняцьце і за шчырыя словы падзякаваў біскупу ўладыка Чэслаў і зьвярнуўся да прысутных з пастырскім словам. Схарактарызаваўшы сучаснае рэлігійнае палажэньне Беларусаў на бацькаўшчыне і на эміграцыі, ён у ясных словах выказаў сваё становішча да ўсіх сваіх суродзічаў і падчыркнуў глыбокую праўду, што народ рэлігійны — няўміручы і раней ці пазьней дасягне свае і вечныя і дачасныя ідэалы.

Архірэйская Служба Божая ў бізантыйска-славянскім абрадзе звычайна трывае доўга, але гэтым разам яна ня здужалася нікому — хто шчыра маліўся, а хто проста перажываў духовую радасьць.

Пасьля Службы Божае нотынгамскія Беларусы наладзілі ў катэдральнай залі прыняцьце ў чэсьць свайго дастойнага Госьця з удзелам Нотынгамскага каталіцкага біскупа і ўсіх прыезных Беларусаў.

Паводля адвечнае беларускае традыцыі старшыня арганізацыйнага камітэту прывітаў пры ўваходных дзьвярох хлебам і сольлю ўладыку Чэслава, а прадстаўнік ад беларускіх грамадзкіх арганізацыяў прывітаў паангельску Нотынгамскага біскупа ды так-жа падзяліўся зь ім хлебам і сольлю.

Калі ўсе прысутныя ў залі занялі свае месцы навокал сытна застаўленых сталоў і адсьпявалі Ойча наш, старшыня арганізацыйнага камітэту выказаў сваю радасьць, што нарэшце беларуская эміграцыя мае такое вялікае дасягненьне, дзякуючы якому становіцца роўнай усім дзяржаўным народам з кажнага гледзішча: «Цяпер нас бачаць усе і з намі лічацца тыя, якія да гэтага часу не хацелі нас бачыць, бо нас узьняў Бог — казаў ён — і мы перажываем гістарычны дзень, дык і стараемся яго азначыць паводля нашых магчымасьцяў».

Прыняцьце было запраўднаю бяседаю. Пасьля кароткае перакускі Яго Дастойнасьць Эльзіс, як гаспадар нотынгамскае епархіі, выказаў сваю радасьць, што хоць чым колечы можа быць памоцны Беларусам, якіх пазнаў так нядаўна і пазнаў іхнага япіскапа і запэўніў, што на будучыню гатоў памачы ім усім, чым толькі будзе магчы. Магутнае «Многая лета» царкоўнага хору й усіх прысутных закончылі ягоную прамову.

У канцы прыняцьця ўладыка Чэслаў падзякаваў арганізатарам за ўсе іхныя турботы й ахвяры, зьвязаныя із багаслужэньнем і прыняцьцем, і асабліва за тую шчырасьць суродзічаў, якая для яго зьяўляецца магутным падтрыманьнем у ягонай адказнай дзейнасьці так у дачыненьні рэлігійных, як і дачасных беларускіх справаў. Зноў гучнае «Многая лета» было адказам на словы ўладыкі.

Вельмі хутка прайшоў час у прыязнай атмасфэры і не аглянуліся, як лёнданскія госьці на чале з уладыкам Чэславам мусілі сьпяшацца на станцыю, каб не спазьніцца на вячэрні цягнік у Лёндан.

Нотынгамскія беларускія ўрачыстасьці з 15. 1. адбіліся гучным рэхам на бачынах нотынгамскіх ангельскіх газэтаў. Ужо ў пятніцу 13. 1. «Nottingham Evening Post» апублікавала фатаграфію ўладыкі Чэслава разам з Папаю і падало вестку аб маючай адбыцца ўрачыстасьці для Беларусаў з Нотынгаму. А пасьля ўрачыстасьці рэпартаж аб ёй падалі ўсе нотынгамскія штодзенныя газэты «Guardian Journal», «Nottingham Evening Post», «Nottingham Evening News».

Беларусы з Нотынгаму й ваколіцы разам з усімі сваімі гасьцямі перажылі 15. 1. запраўды памятны дзень. Пры гэтай нагодзе выявілася, якім магутным дзейнікам ёсьць глыбокая рэлігійнасьць; выявілася так-жа й вельмі суцяшаючае зьявішча — што ўжо ёсьць нямала Беларусаў з высокаю грамадзкаю выпрацоўкаю, якія дзеля дабра свае дарагое бацькаўшчыны Беларусі ўмеюць выступіць адзіным моцным фронтам, ня гледзячы на свае розьніцы паглядаў. З такою сілаю бяз сумлеву прыйдзе калісь час, што «Зацьвіце наш край, як сонца, пасьля непагоды. У роўнай сіле, у роўным стане між усіх народаў».

**Прысутны**

# Зь беларускага жыцьця

## У Згуртаваньні Беларусаў штату Ілінойс

У нумары 1—2 (536—537) «Бацькаўшчыны» было надрукавана, што новая беларуская эміграцыя ў Чыкаго заснавала дзьве агульнабеларускія арганізацыі. Гэта ня зусім дакладна. Беларуская Нацыянальная Рада была заснаваная эмігрантамі Беларусамі перад Другою сьветаваю вайною. Галоўнымі арганізатарамі яе былі сьв. пам. нашыя міністры БНР — Янка Чарапук-Змагар і Язэп Варонка. Гэты апошні пахаваны на праваслаўных могілках, а не на каталіцкіх у «Вайцэхове», як было пададзена ў тым-жа нумары «Бацькаўшчыны».

Беларускія эмігранты пасьля Другое сьветавае вайны зарганізавалі Згуртаваньне Беларусаў Штату Ілінойс. Дня 22-га студзеня сёлета адбыўся чарговы агульны гадавы сход сяброў гэтага Згуртаваньня. Нарады сходу адбыліся ў залі Беларускага рэлігійна-культурнага цэнтру.

Старшыня Згуртаваньня сп. А. Беленіс, пасьля адкрыцьця нарадаў, прачытаў наступны парадак дня сходу: 1. справаздача ўраду за мінулы 1960 год, 2. дыскусія над справаздачай, 3. выбары новага ўраду й рэвізійнае камісіі, 4. падрыхтоўка да сьвяткаваньня 25-га Сакавіка, 5. вольныя прапановы.

Справаздачу зь дзейнасьці арганізацыі зрабіў старшыня ўступаючага ўраду сп. А. Беленіс, а касавую справаздачу — скарбнік ураду сп. М. Махнач.

Із справаздачы сябры даведаліся, колькі адбылося паседжаньняў ураду, колькі агульных сходаў, а так-жа аб прынятых пастановах і аб рэалізацыі зь іх таковых, што даволі ўдала была зладжаная ўрачыстая акадэмія на 25-га сакавіка 1960 г., што сябры Згуртаваньня ўдзельнічалі ў паходзе падчас тыдня паняволеных народаў, што была добра зарганізаваная беларуская сэкцыя на міжнацыянальнай выстаўцы ў Чыкаго, што ў чэсьць і памяць удзельнікаў Слуцкага паўстаньня адбылася вельмі ўрачыстая акадэмія і што зладжаная была супольная куцьця Беларусаў у Чыкаго.

Сакратар ураду мгр. В. Пануцэвіч дадаў, што Згуртаваньне праводзіць кальпартаж беларускае прэсы, кніжак і ўсіх іншых беларускіх выданьняў. З касавае справаздачы сп. Махнача выясьнена, што, зь нязначнымі выняткамі, сябры акуратна плацілі сяброўскія складкі і, апрача гэтага, дабравольна ападаткаваліся на ўтрыманьне Беларускае Сэкцыі Гішпанскага Нацыянальнага Радыя ў Мадрыдзе ды даюць і іншыя непрадбачаныя складкі й ахвяры.

Падчас дыскусіі над справаздачамі сп. праф. М. Куліковіч зьвярнуўся з запытаньнем, чаму не заўважваецца цеснай лучнасьці паміж Згуртаваньнем Беларусаў Штату Ілінойс і Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем. З адказаў сяброў ураду Згуртаваньня сталася ясным, што ў гэтым Згуртаваньне не паносіць ніякае віны. Пад канец дыскусіі на прапанову Рэвізійнае Камісіі былі выказаны ўступаючаму ўраду давер з падзякаю.

На 1961 год быў выбраны ўрад Згуртаваньня ў наступным складзе: старшыня — сп. М. Махнач, заступнік старшыні — сп. М. Жызьнеўскі, скарбнік — сп. А. Беленіс і сакратар — сп. М. Кучура. Апрача гэтага былі выбраныя яшчэ тры заступнікі сяброў ураду й тры сябры ў склад Рэвізійнае Камісіі.

Пастаноўлена з пачатку лютага прыгатаўляцца да ўрачыстага сьвяткаваньня гадавіны 25-га сакавіка. З гэтаю мэтаю сход зьвярнуўся з просьбаю да сп. праф. М. Куліковіча падгатаваць хор, а сп. Ч. Будзьку папрасіў прыгатаваць рэфэрат.

Прысутны на сходзе а. Тарасэвіч паінфармаваў аб ходзе падгатоўкі да высьвячэньня царквы, якое запланаванае на 1—2 ліпеня сёлета.

**Сябра Згуртаваньня**

### ВЕЧАРЫНА МОЛАДЗІ Ў НЬЮ ЁРКУ

У суботу 14-га студзеня 1961 г. аддзел ЗБМА ў Нью Ёрку ладзіў вечарыну з нагоды праваслаўнага Новага Году. У Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне, дзе адбылася сустрэча Новага Году, зыйшлася беларуская моладзь з усяго Нью Ёрку й ваколіцаў ды іхныя бацькі.

Вечар прайшоў весела й цікава. Апрача танцаў пад музыку аркестры Юркі Чарвінскага, у праграме была таксама багатая лятарэя й выбары каралевы балю ды яе прыдворных дамаў-прынцэсаў. На тытул каралевы было аж 14 кандыдатак; усе яны былі прадстаўленыя публіцы. У выніку выбараў канфэрэнсье М. Казьлякоўскі ўкаранаваў прыгожую й папулярную Олю Мельяновіч, актыўную сяброўку аддзелу ЗБМА. Прынцэсамі балю былі выбраныя Поля Груцько й Каця Ферн.

Наагул вечарына была наладжаная ўмела й старанна, за што належыцца прызнаньне кіраўніцтву мясцовага аддзелу ЗБМА.

**Юрка**

# Балцкая тэорыя сьпераду й ззаду

(Заканчэньне з 3-яй бачыны)

Жамойцаў і пакінута пад беларускай адміністрацыяй.

«Як мы бачылі, Беларусы гэта пераважна мешаніна з жамойцкіх і славянскіх плямёнаў. (І дзеля гэтага гэта ёсьць вельмі натуральна, што сярод пабеларуску гаворачага народу ёсьць ня мала людзей, якія будучы сьведамыя свайго паходжаньня, уважаюць сябе Ліцьвінамі).

«Жамойцы й Беларусы жылі разам у ваднэй дзяржаве больш як 500 гадоў: ад Міндаўга да 1795 году. Мінулая гісторыя паказвае, што гэтыя два народы заўсёды былі ў вельмі добрай згодзе і гэта дае некаторым людзям аснову для прапаганды вуніі паміж гэтымі двума дзяржавамі. Польская й расейска-камуністычная акупацыі выхавалі пару беларускіх ультра-нацыяналістых, якія навет не прызнаюць жамойцкай нацыі як такой, але чужымі ўплывамі незакранутыя беларускі патрыёт бачыць, што ён ніколі ня знойдзе лепшых прыяцеляў ад Жамойцаў.

«Тут мы можам зацытаваць словы, сказаныя беларускім рэпрэзэнтантам а. Любімцам: «Літоўская сталіца Вільня мусіць мець адпаведнае тэрытарыяльнае заплечча. Не ўспамінаючы літоўскіх этнаграфічных правоў, я думаю, што зь некаторай добрай воляй ня будзе цяжкасьцяў знайсьці формулу задавальняючую абодвы бакі, пакінуўшы ідэі аб гранічныя справы».

А цяпер пару слоў аб гэтай кніжцы інж. В. Жэмакіса. Яна напісана ў дзьвюх мовах: 83 бачыны ў жамойцкай мове і 30 бачын у ангельскай. Кніжка мае загаловак: «A study of the Frontiers in the region between the Baltic and the Black seas with 5 maps.» Выдана коштам аўтара ў Чыкага ў 1960 годзе.

Зьместам кніжкі зьяўляецца дыскусія чатырох чалавек — Жамойца, Паляка, Украінца й Беларуса, праведзеная быццам у 1945-46 гадох у вадным з дэпісаўскіх лягероў у Нямеччыне (Ансбах, Баварыя). Тэмай дыскусіі было: як маюць на іхную думку выглядаць дзяржаўныя граніцы ў будучыні паміж Балтыцкім і Чорным морам?

Прадстаўніком Беларусаў у гэтых дыскусіях быў нейкі а. А. Любімец, грэкакаталіцкі сьвятар з Баранавіч. Ці асоба беларускага «прадстаўніка» выдуманая ці не, справа ня так ужо й важная, паколькі і ўся гэтая дыскусія выглядае на фікцыю. Для нас тут важна адно: аўтар вельмі хваліць беларускага прадстаўніка, з увагі на гэта мы маем магчымасьць даведацца, як Жамойцы ўяўляюць сабе ідэяльнага Беларуса.

Паколькі я мог з ангельскага тэксту зразумець (жамойцкі тэкст магчыма цікавейшы), ідэяльным Беларусам, паводля аўтара, зьяўляецца такі Беларус, які верыць у балцкую тэорыю, калі ідзе аб паходжаньне беларускага народу, і які да гэтага глыбака пераканаты, што Вялікае Княства Літоўскае было створана балтамі. Такі якраз Беларус, з так прамытымі балцкай балбатнёй мазгамі, быўбы запраўды ідэяльным для Жамойцаў партнэрам, калі ідзе аб вызначэньне жамойцка-беларускіх граніц. Бо толькі такі Беларус, які ўважаў-бы сябе балцкім мэтысам, ня толькі ніколі не рабіў-бы жамойцкім імпэрыялістым ніякіх труднасьцяў (напрыклад, у справе Вільні), але як прадстаўнік беларускага народу (г. зн. збеларушчаных Жамойцаў), із скуры вылазіў-бы, каб прыпадабацца свайму новаму старэйшаму брату (г. зн. яшчэ незьбеларушчаным Жамойцам). «Хочаце Горадню? калі ласка вам Горадня. Мы-ж, Беларусы, разумеем, што вы, Жамойцы, маеце гістарычнае права да ўсёй беларускай зямлі... Хочаце Менск? Менск...» Тут ужо запраўды ёсьць над чым задумацца: як дагадзіць Жамойцам, каб і даць ім столькі нашай зямлі, колькі яны хочуць, і каб граніца жамойцкабеларуская не ператваралася ў граніцу жамойцка-расейскую?..

Аўтар, як прадстаўнік народу, які мае ахвоту стацца нашым старэйшым братам, хочучы паказаць, што яны, як такія, куды лепшыя ад нашых сучасных «старэйшых братоў», прапануе «малодшаму брату», г. зн. нам, балцкім мэтысам, гэніяльную на яго думку развязку:

Беларусы аддадуць Жамойцам столькі зямлі, колькі Жамойцы здолеюць праглынуць, а Жамойцы із сваёй боку дадуць Беларусам гойнай рукой столькі-ж зямлі за Масквой, бо-ж і там за Масквой — старая зямля балтаў... І тады паміж двума народамі наступіць ідэяльная прыязьнь (да рэчы — такая самая, якую нам прапануюць і Палякі за тую-ж самую цану).

Нехта, прачытаўшы кніжку інж. В. Жэмакіса можа сказаць, што ўсё гэта хорыя маячаньні і шкода часу на падобныя гутаркі. На мой аднак пагляд, гэта ня зусім так, бо розныя фантастычныя маячаньні маюць у палітыцы ўсё-ж нешта цалкам рэальнае на ўвазе. У даным выпадку, усякія гутаркі аб мітычных балтах, на маю думку, зводзяцца да аднаго: забалтаць беларускія галовы балтамі так, каб увагу беларускага народу адцягнуць як мага далей ад Вільні, і каб ён урэшце, махнуўшы на Вільню рукой, пачаў «ратаваць» тое, што яшчэ ўдасца выратаваць — і на сваей зямлі і ў сваей гісторыі.

**Часлаў Будзька**



**УВАГА! УВАГА!**

**ДА ПАВАЖАНЫХ ЧЫТАЧОЎ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»**

Мо' хто ведае поўны тэкст беларускай вайсковай песьні, якая пачыналася словамі:

Наша хатка — даль у полі,
Наша матка — доля-воля.
Лёгкі стрэльбы — нашы сёстры,
Нашы жонкі — шаблі войстры.

Мы на ворага ідзём,
Яго сілы разаб'ём.
Гэй, саколы, гэй у бой.
Пойдзем моцнаю сьцяной!

Песьню гэтую, на мэлёдыю полькі «Янка», выконваў хор Віленскай Беларускай Гімназіі ў 1922 годзе пад кіраўніцтвам Зьгірскага.

Адказы просім кіраваць на рэдакцыю «Бацькаўшчыны» для Ч. Х.


## НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz,** 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan,** 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity,** 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk,** Prasa 76. Tiridentes, Curitiba — Parana.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich,** 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula,** 57 Riverdale Ave., Toronto 6, Ont.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Union des Travailleurs Biélorussiens en France,** 26, rue de Montholon, Paris 9.
**Mr. W. Kasztelan,** 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).




**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры і грамадзкага жыцьця.**

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**